



# Рэгіянальная газета

8 сакавіка 2013 года
№ 10 (932)

Тэлетыдзень 26

http://rh.by

...пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.


*Здароўя, кахання, шчасця, нашы мілыя жанчыны!*

## навіны рэгіёна

### Выратаваў дзяцей і атрымаў планшэт

**МАЛАДЗЕЧНА.** У чацвер, 28 лютага, узнагародзілі 22-гадовага **Яўгена Мацуціна**, які 8 студзеня выратаваў двух хлопчыкаў ад пажару ў Маладзечне. Старэйшы хлопчык чысціў на кухні колы тачкі лёгкаўзгаральнай вадкасцю. У гэты час зайшоў меншы і папрасіў заварыць яму гарбату. Старэйшы запаліў канфорку і кінуў запалку на падлогу. Тая патрапіла на анучу, прамочаную лёгкаўзгаральнай вадкасцю, і пачаўся пажар. Яўген Мацуцін, які жыве побач, пачуў крыкі, кінуўся да дзяцей ды выратаваў іх. Планшэт і грамату МНС Беларусі яму ўручылі падчас падвядзення вынікаў Мінскага абласнога агляду-конкурсу “Выратавальнікі вачамі дзяцей”, што праходзіў у Маладзечне.

### Уступіў у сілу новы Жыллёвы кодэкс

**БЕЛАРУСЬ.** Ад 2 сакавіка 2013 года ўласнікаў, якія маюць запазычанні па камунальных плацяжах, змогуць высяляць з кватэр. Жыллё злосных неплацельшчыкаў можа быць па рашэнні суда выстаўлена на публічныя таргі. З атрыманай ад продажу сумы аднімуць суму запазычанасці за жыллёва-камунальныя паслугі, а за тыя грошы, што засталіся, мясцовы выканаўчы і распарадчы орган набудзе і перадасць былому ўладальніку ва ўласнасць іншае жыллё. Яно будзе меншай плошчы, можа саступаць папярэдняму па сваіх спажывецкіх якасцях і пры гэтым размяшчацца ў іншым населеным пункце. Гэта толькі адно змяненне ў новым кодэксе. Пра астатнія чытайце ў наступным нумары газеты.

### Згуляем у вялікі тэніс і дартс

**МЯДЗЕЛ.** У фізкультурна-аздараўленчым цэнтры наведнікі цяпер могуць пагуляць у вялікі тэніс і дартс. Падобныя паслугі пачалі прапаноўваць з сярэдзіны лютага. Ёсць неабходны інвентар. Паўгадзіны гульні ў дартс абыдуцца ў 10 тысяч рублёў, гадзіна вялікага тэнісу – у 60 тысяч. Плануюць, што неўзабаве ў цэнтры можна будзе пагуляць і ў бадмінтон.

**Аддзел інфармацыі.**



# Жаночае шчасце Алены Субат



Фота Настасі РОЎДЫ.

Сям’я Субатаў: тата Павел трымае дачку Сафію і сына Захара, а маці Алена – Марыю і Іллю.

**МАЛАДЗЕЧНА. Павел і Алена Субаты чакалі першае дзіця сем гадоў. Потым у іх нарадзілася двойня. А праз год – яшчэ адна.**

Цяпер маладыя бацькі гадуюць чацвярых дзетак – двух хлопчыкаў і дзвюх дзяўчынак.

Старэйшых завуць **Захар** і **Сафія**. Ім год і сем месяцаў. А малодшых – **Ілля** і **Марыя**. Ім па шэсць месяцаў.

Першая двойня з’явілася, калі Алене было 30 гадоў. Цяпер ёй 32 гады, а Паўлу – 31.

Раней Алена працавала бухгалтарам у будаўнічай фірме. Павел жа – энергадыспетчар на чыгунцы. Яго працоўны графік дазваляе праводзіць час з сям’ёй і дзецьмі ды дапамагаць жонцы.

– Першая двойня была вельмі чаканай, – дзеліцца маладая маці. – Пра трэцяе дзіця таксама думалі, але другая двойня была для нас нечаканасцю.

**– Ці марылі вы калі-небудзь пра двайнят?**

– Некалі ў маладосці марыла, – прыгадвае Алена. – Хацелася, каб двайняты былі разнаполыя, але не думала, што так і здарыцца. У сваякоў двайнят не было.

– Чаму гэта? – здзіўляецца Павел. – У маіх сваякоў былі двайняты.

**– Як сябры і блізкія аднесліся да навіны аб нараджэнні двойні?**

– Усе вельмі радаваліся, што нарадзіліся менавіта хлопчык і дзяўчынка. Адзінае, за што перажывалі, каб былі здаровенькія, бо нарадзіліся на месяц раней вызначанага тэрміну. Ды і наогул казалі, што дваіх складана вынасіць.

**– А вы як лічыце, складана?**

– Я не ведаю, з чым параўноўваць. Аднаго і не насіла.

### “Глядзіце, якую прыгажосць вязуць!”

Сям’я Субатаў жыве ў мікрараёне Усходні ў новым доме. Кватэру пачыналі будаваць яшчэ да нараджэння першай двойні. Недахоп тут адзіны – пакуль каля дома дзецям няма дзе пагуляць.

– З дзіцячай пляцоўкай увогуле складанае пытанне, – кажа Павел. – Як снег растае, дык ні прайсці, ні з каляскай праехаць. І яшчэ невядома, калі яна з’явіцца. Праўда, мы ходзім у суседні двор, дзе шмат дзяцей. А як пацяплее – паедзем у парк. Там цяпер і прыгожа, і дзецям ёсць дзе пагуляць.

**– Як людзі на вуліцы рэагуюць, калі бачаць вас усіх разам?**

– Па-мойму, усе ў захапленні. Зімой мы неяк на санках каталіся і пачулі: “Глядзіце, якую прыгажосць вязуць!”

**Настасся РОЎДА.**

**Працяг на 5-й старонцы.**

УЛАДА

# Аляксандр Яхнавец узначаліць маладзечанскі райвыканкам


Фота llb.by.

Аляксандр Яхнавец.


Архіў "РГ".

Фёдар Дамаценка.

**28 лютага Аляксандр Лукашэнка даў згоду на прызначэнне Аляксандра Яхнаўца старшынёй Маладзечанскага райвыканкама.**

У дзень падпісання газеты да друку (аўторак, 5 сакавіка) у Маладзечне мае прайсці пазачарговая сесія раённага Савета дэпутатаў, у парадку дня якой зацвярджэнне старшыні раённага выканаўчага камітэта.

Аляксандр Дзмітрыевіч Яхнавец нарадзіўся 10 верасня 1963 года ў вёсцы Атвержычы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці ў сям'і рабочага саўгаса.

У 1979 годзе скончыў васьмігадовую школу і паступіў у Брэцкі будаўнічы тэхнікум, які скончыў у 1983 годзе па спецыяльнасці тэхнік-будаўнік.

Быў прызваны ў Савецкую Армію. У 1985 годзе дэмабілізаваны. Ад 5 чэрвеня 1985 года працаваў бетоншчыкам, інжынерам аддзела капітальнага будаўніцтва, начальнікам аддзела, намеснікам дырэктара па капітальным будаўніцтве Нова-Бярозаўскага вапнавага завода.

У чэрвені 2001 года прызначаны дырэктарам Любанскага камбіната будаўнічых матэрыялаў.

Жанаты. Мае траіх дзяцей. Дочкі 1983 і 1995 гадоў нараджэння і сын 1987 года нараджэння.

У 1992 годзе скончыў Брэсцкі політэхнічны інстытут па спецыяльнасці інжынер-будаўнік. У 1999 – Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце па спецыяльнасці эканаміст-менеджар.

**Аддзел інфармацыі.**

## Фёдар Дамаценка – памочнік Прэзідэнта па Мінску

28 лютага Аляксандр Лукашэнка прызначыў Фёдара Дамаценку памочнікам Прэзідэнта Беларусі – галоўным інспектарам па Мінску.

Фёдар Дамаценка ад пачатку верасня 2010 года працаваў старшынёй Маладзечанскага раённага выканаўчага камітэта. На гэтай пасадзе ён замяніў Генадзя Кучко.

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як вы ацэньваеце дзейнасць мінулага старшыні райвыканкама і чаго чакаеце ад новага?



**Галіна Чыліевіч, гаспадыня:**

– Калі ацэньваць па пяцібальнай шкале, я паставіла б мінуламу старшыні чацвёрку. Хацелася б, каб новы працягваў працу на тым жа ўзроўні. Напрыклад, каб заняўся тымі вуліцамі, якія не падрыхтавалі да "Дажынак". Каб добраўпарадкаванне горада працягвалася.



**Юры Самбук, ахоўнік:**

– Мяне больш цікавяць камунальныя пытанні нашага горада, тыя ж дарогі. Было б добра, каб не з'яўляліся новыя аб'екты, а аднаўляліся тыя, што ўжо ёсць. Пасля "Дажынак" засталося шмат недаробак, за якія яшчэ не позна ўзяцца цяпер.



**Вольга Бялько, дэпутат раённага Савета дэпутатаў:**

– Фёдар Дамаценка – вельмі адукаваны чалавек і выдатны прамысловец. На пасяджэннях ніводная лічба міма яго не пройдзе, ён усё трымаў пад кантролем. А новы старшыня мусіць, як мінімум, захаваць тое, што ўжо ёсць у горадзе.



**Юры Чуйкевіч, станочнік:**

– Мінулага старшыню ацэньваю добра. На "Дажынках" усё было належным чынам арганізавана, не было такога бардаку, якога я чакаў. Горад стаў прыгажэйшым, але гэта заслуга ўсёй рэспублікі. Хочацца, каб новы старшыня падтрымліваў горад на цяперашнім узроўні.



**Галіна Мамай, пенсіянерка:**

– Пасля "Дажынак" Маладзечна стала горадам-казкай. Лічу, гэта заслуга Фёдара Дамаценкі. Хацелася б, каб адрамантавалі дамы на вуліцы Талстога, да якіх "Дажынкі" не дайшлі. І яшчэ – каб было больш гурткоў народнай творчасці для дзяцей. Каб яны займаліся не толькі спортам, але і развіваліся творча.



**Людміла Раінчыкава, выкладчыца дзіцячай школы мастацтваў:**

– Мне хацелася б, каб новы старшыня звяртаў увагу не толькі на прамысловасць, але і культуру, больш павярнуўся да нас. Трэба разумець, што не толькі хлебам жыве чалавек. Было б цудоўна, каб кіраўніцтва больш цаніла нашу працу.



**Аляксандр Голуб, студэнт:**

– Вельмі важна, што мінулы старшыня шмат зрабіў да "Дажынак". Ад новага хацелася б добрых дарог і больш парковак. А таксама – больш пляцовак для дзяцей і падлеткаў, дзе б яны маглі бавіць вольны час.

**Падрыхтавалі Аляксандра ПАРАХНЯ, Зоя ХРУЦКАЯ.**



ВЫХАВАННЕ

## Што значыць быць адказнымі бацькамі?

**ВІЛЕЙКА. Традыцыйны раённы бацькоўскі сход прайшоў у Вілейцы ў чацвер, 28 лютага. Мерапрыемства адбываецца ў раёне ўжо чацвёрты год запар.**

Сёлета асноўнай тэмай дыскусій сталі сучасныя падыходы ў выхаванні адказнага бацькоўства.

**Эдуард Мацюшонак,** кіраўнік мастацкай студыі, стаў кіраўніком адной з секцый сходу. На прыкладзе ўласнай сям'і ён паказаў бацькам, наколькі важнымі з'яўляюцца сямейныя традыцыі.

Асобным пунктам у адказным бацькоўстве ўдзельнікі вылучылі ролю таты: якая роля мужчыны ў выхаванні дзяцей і ці павінны ён быць узорам для іх? Свае меркаванні на гэтую тэму выказалі і бацькі, і настаўнікі. Разам яны прыйшлі да высновы, што тата павінен быць у сям'і такім, якімі хоча бачыць сваіх дзяцей.

Міні-апытанне ў межах сходу паказала: большасць з сабраных бачаць сучаснага тату мужчынам, для якога выхаванне дзіцяці – відавочны і звыклы занятак. Меншасць выказалася за тое, каб муж даваў поўную свабоду жонцы ў выхаванні.

Яшчэ адна праблема, якая падымалася на сходзе, – як навучыць дзяцей прытрымлівацца здаровага ладу жыцця? Бацькі дзяліліся сваім досведам у гэтым пытанні. Падымаліся і пытанні вырашэння канфліктных сітуацый ў сям'і, і бацькоўскай улады.

У выніку сходу ўдзельнікі распрацавалі зварот да ўсіх бацькоў раёна.

**Ірына ПРАКАПОВІЧ, метадыст вучэбна-метадычнага кабінета аддзела адукацыі Вілейскага аблвыканкама.**

РЫНАК

# Кветкі да свята: ад ружаў да бансая

**МАЛАДЗЕЧНА. На пачатку сакавіка ледзь не кожны мужчына накіроўваецца ў краму за кветкамі. Менавіта мімозы і цюльпаны выклікаюць самыя трывалыя асацыяцыі са святам 8 Сакавіка, з пачаткам вясны. Як змяніўся выбар кветак за апошнія гады?**

Для таго, каб разабрацца ў гэтым пытанні, карэспандэнт "РГ" накіравалася ў маладзечанскую краму кветак "Магія". Прадаўшчыца **Юлія Герасенка** падзялілася сваімі назіраннямі: за кветачным прылаўкам яна ўжо больш за пяць гадоў.



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

**Архідэі цяпер вельмі папулярныя. Кошт аднаго вазона – каля 200 тысяч рублёў. Але любы, хто набываў гэтыя кветкі, скажа вам, што яны таго вартыя.**

### Людзі сталі больш практычнымі

Спадарыня Юлія адразу адзначае: кветкі – гэта падарунак, які заўсёды будзе ў модзе.

– Попыт на кветкі ёсць кожны дзень, – кажа прадаўшчыца. – Да абеду звычайна прыходзяць, каб замовіць кветкі для прадпрыемстваў і арганізацый, а пад вечар больш заходзяць за асобнымі букетамі.

За апошнія некалькі гадоў людзі сталі больш практычнымі: цяпер набываюць пераважна не зрэзаныя кветкі, а расліны ў вазонах. Як адзначаюць у краме, звязана гэта ў першую чаргу з жаданнямі жанчын: ім шкада праз пару дзён выкідаць завялую кветку, таму яны самі просяць мужчын дарыць кветкі ў гаршках.

– Асаблівую папулярнасць набылі архідэі, – заўважае спадарыня Юлія. – Кошт аднаго вазона – ад 150 тысяч рублёў. Але любы, хто набываў гэтыя кветкі, скажа вам, што яны таго вартыя.

Некаторыя віды архідэй квітнеюць цягам дзевяці месяцаў!

### Сённяшні выбар: і гваздзікі, і бансай

Самы танны букет абыдзецца ў 33 тысячы: тры гваздзікі упакуюць у празрысты цэлафан. Мяжы самым высокім цэнам не існуе: тут усё залежыць ад жадання і магчымасцей пакупніка.

– Самыя дарагія букеты, якія мы выстаўляем на вітрыне, каштуюць 120 тысяч рублёў, – кажа спадарыня Юлія. – У гэты кошт уваходзяць тры хрызантэмы, лісты папараці і абгортка. Больш дарагія робім пад заказ.

Па жаданні пакупніка ў букет могуць увайсці геацынты, фрэзіі, герберы і іншыя кветкі.

Расліны ў вазонах таксама можна падабраць на любы густ: ад фіялак і кактусаў да экзатычнага бансай. Мініяцюрнае дрэўца каштуе 250 тысяч рублёў.

– Не магу сказаць, што бансай карыстаецца папулярнасцю, – адзначае прадаўшчыца. – Ён адносна нядаўна з'явіўся ў продажы.

### Кветкі вязуць з Паўночнай Амерыкі

Геаграфія паходжання кветак, якія можна набыць у крамах, – самая разнастайная.

Некаторыя віды ружаў, архідэй, хрызантэмаў і гваздзікоў прыбываюць з Галандыі і нават Эквадора, які знаходзіцца на іншым кантыненце – у Паўночнай Амерыцы.

**Традыцыйныя святочныя мімозы часцей за ўсё прыбываюць з Францыі.**

А вось якасныя цюльпаны прывозяць з Польшчы. Вырошчваюць іх і ў нашай краіне. Таксама вядомы пакупнікам і беларускія ружы.

### Бліскаўкі і птушкі – на выбар пакупніка

Асобным пунктам пры набыцці кветак стаіць упрыгожванне расліны. Самы распаўсюджаны спосаб – загарнуць яе ў каляровую паперу ці цэлафан, а таксама навязаць стужачку.

У зямлю вазона можна ўткнуць дэкаратыўную палачку са штучным матылём або птушкай. Кошты на іх пачынаюцца ад 7 тысяч рублёў.

Ёсць і ўпрыгожванні, зробленыя з пер'я, – іх укладваюць у букеты. Кошт адной штукі – тысяча рублёў.

Сярод моладзі папулярнасцю карыстаюцца бліскаўкі: імі можна абсыпаць гатовы букет. У краме "Магія" гэта робіцца бясплатна.

### Толькі палова мужчын умее выбіраць кветкі

Выбар букета – задача адказная. Па рознаму да яе вырашэння ставяцца мужчыны і жанчыны. Калі першыя аддаюць перавагу класіцы – ружам, то апошнія імкнуцца набыць арыгінальны, непаўторны букет.

Пытанне аб тым, ці ўмеюць нашы мужчыны выбіраць кветкі, прымушае прадаўшчыцу задумацца.

– Я б сказала, што 50 на 50, – адказвае яна. – Ёсць такія, якія прыходзяць і адразу кажуць: "Мне трэба бягонія". Ім можна дапамагчы хіба што ў выбары колеру. А ёсць і такія, якія і самі не ведаюць, што шукаюць. Тады я распытваюся, для каго набываецца букет, які ўзрост гэтага чалавека.

Пры гэтым сярод наведнікаў крамаў з кветкамі няма перавагі мужчын: прыкладна палову пакупнікоў складаюць жанчыны.

– Звычайна лёгка вызначыць, як мужчына падрыхтаваўся да свята, – дзеліцца назіраннямі спадарыня Юлія. – Калі набывае вялікі прыгожы букет – часцей за ўсё, ён і будзе галоўным падарункам. Калі набывае сціплы букет альбо адну кветку – магчыма, у яго ўжо ёсць нейкі асноўны падарунак, а кветка – проста дадатак.

Да свята 8 Сакавіка крамы звычайна рыхтуюцца загадзя. Кветак закупляюць значна больш, чым у звычайны дзень.

– Мы нават адчыняемся на гадзіну раней, чым звычайна, – адзначае прадаўшчыца. – Людзі ідуць з самага ранку. Цюльпаны расходзяцца ўжо за некалькі першых гадзін. Вядома, за гэты дзень вельмі стамляемся. Але ж і свята такое бывае раз на год, таму ў яго варта дапамагчы іншым з выбарам падарунка.

**Даведка "РГ". Бансай** – ад японскага "дрэва на падносе". Мініяцюрнае дрэва, якое з'яўляецца дакладнай копіяй звычайнага. Вырошчваецца дзякуючы спецыяльнай адмысловай тэхніцы падрэзкі галінак.



Аляксандра ПАРАХНЯ
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com



| Курсы валют НБ РБ | 28.02 руб. | 6.03 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 8630.00 | **8 640.00** |
| Еўра | 11 290.00 | **11 260.00** |
| Злоты | 2 711.79 | **2 723.75** |
| Літ | 3 271.42 | **3 264.69** |
| Расійскі рубель | 282.00 | **281.50** |
| Грыўня | 1 062.15 | **1 060.12** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | **5.03** |
| Долар ЗША | 8600/8650 | **8600/8650** |
| Еўра | 11230/11360 | **11150/11260** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 27.02 | 5.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 136900 | **105700** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 41450 | **41640** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 50000 | **50000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 88000 | **85000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 24800 | **23500** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23800 | **23500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 21000 | **29800** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 83000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10700 | **9000** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9800 | **8000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 11000 | **11000** |
| **Алей** | 16400 | **14000** |
| **Маянэз**, 200 г | 4800 | **4300** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7800 | **7000** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9600 | **13800** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 4000 | **3600** |
| **Капуста**, 1 кг | 3800 | **3000** |
| **Морква**, 1 кг | 3500 | **3900** |
| **Буракі**, 1 кг | 4000 | **3900** |
| **Лімоны**, 1 кг | 18000 | **19000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 15000 | **14000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 16500 | **19000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 23000 | **23500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 27500 | **30500** |
| **Перац**, 1 кг | 35400 | **35000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 39000 | **34000** |
| **Бананы**, 1 кг | 14000 | **12300** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 8000 | **9000** |
| **Грушы**, 1 кг | 18500 | **22900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Тварог**, 1 кг | 40000 | **38000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 15000 | **16000** |
| **Сала**, 1 кг | 58000 | **50000** |
| **Бульба**,1 кг | 2500 | **3000** |
| **Мёд**, 1 кг | 60000 | **60000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Збіў жонку да разрыву мачавога пузыра




Фота demotivators.org.ua

**ВАЛОЖЫН. Суд па гэтай справе адбыўся 12 лютага.**

Асуджаны – 48-гадовы жыхар вёскі Рымавічы. Мае сярэднюю адукацыю, жанаты, раней не судзімы. Працуе ў лясгасе.

Мужчына вечарам шостага кастрычніка 2012 года быў дома са сваёй жонкай. Яны пасварыліся з-за таго, што тая прыйшла дадому п'яная. Раззлаваўшыся, ён не менш за тры разы ўдарыў абутай нагой у жывот жонцы, якая ляжала на зямлі.

Потым мужчына зацягнуў яе ў хату, дзе зноў ударыў у ніз жывата. Ад удару жанчына ўпала спіной на ложак, а муж яшчэ не менш за восем разоў ударыў у жывот, пры гэтым рукамі сціскаючы шыю.

У выніку у жанчыны разарвала мачавы пузыр, пераломленая рабрына. Гэтыя пашкоджанні аднасяцца да цяжкіх, але ў бальніцу яна спачатку не звярталася. Праз некалькі дзён ёй стала горш, жанчыну паклалі ў бальніцу і прааперыравалі.

Паводле заключэння экспертаў, абвінавачаны мае сіндром залежнасці ад алкаголю з актыўнай формай. Ён стаіць на ўліку ў доктара-нарколага і мае патрэбу ў прымусовым лячэнні ад алкагалізму.

Суд прызнаў мужчыну вінаватым у наўмысным нанясенні цяжкіх цялесных пашкоджанняў, небяспечных для жыцця, і прызначыў пакаранне – чатыры гады ў выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму, а таксама прымусовае лячэнне ад алкагалізму. Прыгавор уступіў у законную сілу.

Калі мужчына быў пад следствам, ён, прыставіўшы нож да шыі жонкі, пагражаў забіць яе. У адносінах да яго ўзбуджаная яшчэ адна крымінальная справа па артыкуле "Пагроза забойствам".

**Андрэй ЖУКОЎСКІ, памочнік пракурора Валожынскага раёна.**

# Пабіў і забраў грошы і кілбасу

**АШМЯНЫ. Восьмую судзімасць жыхар Ашмянаў атрымаў за рабаванне. У чацвер, 28 лютага, суд вынес яму прыгавор.**

Здарэнне адбылося летась 13 снежня каля 18.00

С. са сваім знаёмым увесь дзень пілі разам. Калі спіртное заканчвалася, яны ішлі ў краму ды куплялі яшчэ. Але бліжэй да вечара скончыліся і грошы. Тады знаёмы С. прапанаваў схадзіць да свайго знаёмага і пазычыць іх.

І вось яны падышлі да кватэры і пачалі званіць. У гэты момант С. вырашыў, што, як толькі гаспадар адчыніць дзверы, ён ударыць яго і забярэ грошы. Аб сваіх роздумах сябруку ён нічога не сказаў.

Калі дзверы пачалі адчыняцца, С. убачыў у калідоры пажылога мужчыну. Той нават і слова не паспеў вымавіць, бо адразу атрымаў кулаком у твар. Ад удару мужчына пачаў падаць, тады злодзей схапіў яго за кашулю і паклаў на падлогу.

Знаёмы С., з якім яны прыйшлі, тым часам апынуўся за дзвярыма. С. зачыніў іх адразу пасля таго, як ударыў мужчыну.

Паклаўшы дзядулю на падлогу, злодзей выкрыкнуў: "Дзе грошы?" Дзядуля сказаў яму, што грошай няма. Пасля гэтага С. ударыў яго па галаве так, што дзед страціў прытомнасць. Сам жа намацаў у яго левай нагруднай кішэні грошы і забраў сабе.

Потым злодзей палез у халадзільнік. Убачыўшы там кавалак кілбасы, забраў яго з сабой і пайшоў на вуліцу.

Каля пад'езда яго чакаў знаёмы, з якім яны прыйшлі. Разам зноў накіраваліся ў краму за алкаголем, цыгарэтамі ды ліманадам.

Тым часам дзед апрытомнеў. У кватэры ўжо нікога не было. Яму моцна балела галава. Але вырашыў схадзіць у краму за алкаголем, ды толькі 130 тысяч, якія ляжалі ў яго кішэні, не знайшоў. Вось тады ён зразумеў, што яго абакралі. Не знайшоў ён і 300-грамовы кавалак кілбасы, які каштаваў 35 тысяч рублёў.

Пасля нападу ў гаспадара на твары і левай бакавой паверхні грудной клеткі засталіся сінякі.

Абвінавачаны прызнаў сваю віну цалкам.

Суд прызначыў яму 2 гады і 6 месяцаў пазбаўлення волі ў выпраўленчай калоніі ва ўмовах строгага рэжыму.

Таксама абвінавачаная будуць прымусова лячыць ад алкагалізму.

Прыгавор уступае ў законную сілу праз 10 дзён пасля абвяшчэння.

**Аляксандр ЛЯНКЕВІЧ, старшы памочнік пракурора Ашмянскага раёна.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

## Мужчыну асудзілі ў адзінаццаты раз

**МАЛАДЗЕЧНА. За плячыма ў мужчыны чатыры крадзяжы і два рабаванні. Цяпер яго арыштавалі на шэсць месяцаў за чарговы крадзеж.**

Каля 12 гадзін дня 15 верасня 46-гадовага мужчыну з вёскі Парэчча знаёмая папрасіла дапамагчы перавезці маёмасць. І ён дапамог – украў з чамадана цюнер ад спадарожнікавай антэны і машынку для стрыжкі валасоў. Усяго на суму 493 тысячы рублёў.

Абвінавачаны не адмаўляў сваю віну. Таму суд вырашыў прыгаварыць мужчыну да шасці месяцаў арышту.

Вінаваты павінны на працягу двух месяцаў пасля прыгавору цалкам выплаціць суму скрадзеных рэчаў.

Мужчына мае няпоўную сярэднюю адукацыю, разведзены і нідзе не працуе.

**Іван НЕЎМЯРЖЫЦКІ, памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## У вёсцы Забалацце забілі жанчыну

**ВІЛЕЙКА. Здарэнне адбылося 1 сакавіка каля 23.30.**

Па версіі следства, 40-гадовы жыхар дома ў вёсцы Забалацце на Вілейшчыне разам са сваімі знаёмымі выпіваў.

Праз некаторы час адзін з прыяцеляў ненадоўга пакінуў гаспадара дома ўдваіх з яго знаёмай. А калі вярнуўся – жанчына была ўжо мёртвай.

Стала вядома, што гаспадар і жанчына, пакуль пілі, пасварыліся. Мужчына пачаў яе біць абухом сякеры, рукамі ды нагамі.

Згодна з папярэднімі вынікамі судова-медыцынскай экспертызы, жанчына памерла з-за пасттраўматычнага шоку.

Цяпер падазраваны затрыманы.

Расследаванне крымінальнай справы працягваецца.

Пра падрабязнасці здарэння паведаміў афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог.**

**Настасся РОЎДА.**

## Злодзей вынес долары і ювелірныя вырабы

**ВІЛЕЙКА. Невядомы злодзей 8 лютага, падабраўшы ключ, пранік у дом па вуліцы Молакава ў Вілейцы.**

Выкраў 5000 долараў ЗША, залаты пярсцёнак, сярэбраны ланцужок з кулонам. Агульная сума скрадзенага перавысіла 43 мільёны рублёў.

Крымінальную справу ўзбудзілі 27 лютага.

Злодзею пагражае пазбаўленне волі на тэрмін ад двух да сямі год з канфіскацыяй або без канфіскацыі маёмасці.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота img-fotki.yandex.ru

Злодзей вынес з дома ўпрыгожванні і грошы.

# Жаночае шчасце Алены Субат



Фота Настасі РОЎДЫ

Дзеці Паўла і Алены Субатаў (злева направа): Ілля, Захар, Сафія і Марыя.

*Працяг. Пачатак на 1-й старонцы.*

**МАЛАДЗЕЧНА. Павел і Алена Субаты чакалі першае дзіця сем гадоў. Потым у іх нарадзілася двойня. А праз год – яшчэ адна.**

## Няню дабіваліся два месяцы

**– Ці з'яўляліся ў вас фінансавыя складанасці?**

– Дзяржава дапамагае, – кажа маладая маці. – Харчаванне для дзяцей бясплатнае, далі льготны крэдыт на кватэру на 40 гадоў.

– Няню нам далі, – дадае Павел. – Але дабіваліся гэтага два месяцы. Мясцовыя ўлады па закone не маглі даць, бо яе даюць тады, калі нараджаюцца трайняты. Але ў нас крыху незвычайная сітуацыя. Дык мы напісалі ліст у адміністрацыю Прэзідэнта. І ўжо тады нам далі няню Галіну.

**– Чым яна дапамагае?**

– Нам наогул з Галінай пашанцавала, – дзеліцца Алена. – У яе ў самой трое дзетак, і таксама ёсць двойня. Таму яна мае і досвед працы з дзецьмі, і ўяўленне, што такое двайняты. Дапамагае ўсім: і пераапрануць дзяцей, і памыць, і накарміць, і пагуляць.

**– Ці складана цяпер спраўляцца з чацвярымі дзецьмі?**

– Галоўнае – не ленавацца. Можна ўсё паспець. Цяпер увесь дзень аддаю дзецям. Муж дапамагае: і прыгатаваць можа, і прыбраць, калі трэба, і з дзецьмі пагуляць.

**– Ці рашыцеся вы нарадзіць яшчэ адно дзіця?**

– Складанае пытанне. Не ведаю, ужо ўзрост не зусім малады. Няхай дзеці падрастуць.

## Дактары падтрымлівалі

У радзільні Алене пашанцавала:

– Атрымалася так, што платная палата была вольная два разы, таму я адчувала сябе камфортна. Першыя двайняты нарадзіліся крыху раней за патрэбны тэрмін, на 36-м тыдні. Толькі пачынаўся дзявяты месяц. Таму, калі зацяжарала ў другі раз, хвалявалася, каб усё прайшло добра. Вось тады дактары падтрымлівалі, казалі: "Не хвалюйцеся, вынасім!" Так і атрымалася.

**– Ці шмат у вас было бяссонных начэй?**

– Спачатку чатыры гадзіны сну было максімумам. Бо і карміць трэба ж было праз кожныя тры, тры з паловай гадзіны. Але мы імкнуліся прывучаць ноччу спаць. Цяпер ужо няма такіх праблем. Вечарам пакармілі, і яны спяць усю ноч да сямі раніцы.

## Дзяцей цікавіць электроніка

**– Як вы развіваеце дзяцей?**

– Старэйшых дзяцей два разы на тыдзень водзім у садок, – распавядае Павел. – Там з імі выхавальнікі адну гадзіну, з 12.00 да 13.00, займаюцца і песнямі, і танцамі, і маляваннем, і лепкай.

**– Ці даводзіцца ўсё з палічак хаваць, каб дзеці нікуды не ўлезлі?**

– Яшчэ як! – усміхаецца Алена. – Захар цяпер наогул пачаў дацягвацца да паліц з відэльцамі і лыжкамі. Да электронікі вельмі цягнуцца. Ноўтбук ставім як мага вышэй. Тэлефон таксама цікавіць. Цiскаюць усе кнопкі і кажуць: "Ало, ало!"

**– За цацкі не б'юцца?**

– Б'юцца, – кажа Павел. – Калі Захару нешта трэба, ён забярэ і ўсё тут. Сафія ў нас саступае, дзяўчынка.

**– Што вы лічыце галоўным у выхаванні дзяцей?**

– Галоўнае, каб яны раслі ў любові, клопаце і дабрыні, – упэўненыя маладыя бацькі.

**– Што б вы пажадалі жанчынам на 8 Сакавіка?**

– Шчасця, здароўя, дабрабыту і сямейнага цяпла. Ну і, канешне, каб дзеці радавалі!



**Настасся РОЎДА**
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo







■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## У чым жанчыны незаменныя?



**Яўген Варашкевіч, электразваршчык:**

– Жанчына нясе ў жыццё гармонію, спакой, напаўняе яго яркімі фарбамі. Жанчыны – тыя ж кветкі жыцця, як і дзеці. Я не ўяўляю сябе без маёй жонкі! Жанчыны нас аберагаюць усё жыццё: бабулі, маці, сёстры, жонка.



**Уладзімір Васін, інжынер:**

– Без жанчыны цяпер нікуды. Яна ў доме гаспадыня. Не дарма ж кажуць, што мужчына – галава, а жанчына – шыя. Дарэчы, віншую сваю жонку Наталлю са святам 8 Сакавіка! Шчасця ёй і здароўя!



**Любоў Сідарчук, пенсіянерка:**

– На жанчыне трымаецца сям'я, якая вышэй за ўсё. На жаль, моладзь не разумее гэтага. Жанчыне трэба быць сапраўднай артысткай, каб была сям'я, каб было каханне.



**Таццяна Бабей, рэжысёр-пастаноўшчык:**

– У Божай дадзенасці – даваць жыццё і яго падтрымліваць. Нястомна, а часам і самаадданa. Але абавязкова беражліва і цярпліва.



**Анатоль Данілаў, слесар:**

– У дамашнім быце. Гэта іх галоўная роля. Без жанчыны я не пражыў бы. Таксама яна павінна ўсяляк падтрымліваць мужчыну. Цяпер якраз 8 Сакавіка, хацеў бы павіншаваць сваіх маці і бабулю.



**Антон Саевіч, машыніст:**

– У сваёй непераўзыдзенай прыгажосці! Жанчына павінна дарыць цяпло і ўтульнасць. Але сям'ю ствараюць усё ж такі абое, ад мужчыны таксама шмат што залежыць. Важна, каб яна не толькі была прыгожая знешне, але і мела прыгожую душу.



**Аляксей Ціхаміраў, прадпрымальнік:**

– Сапраўдны мужчына не можа існаваць без каханай жанчыны, бо вы – наша ўсё! Шчасце і дабрабыт, давер і гадаванне дзяцей, – усё ў вашых пяшчотных руках.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Настасся РОЎДА, Ганна ФІЛІСТОВІЧ.**

 



■ АСОБЫ

# Нас было нямнога

## Успаміны Міхася Чарняўскага, якія ніколі не друкаваліся

**МЯДЗЕЛ. 20 студзеня не стала Міхася Чарняўскага – гісторыка і археолага, аднаго з айцоў руху за незалежнасць.**

Ён адышоў без пары: яшчэ актыўна выкладаў ва ўніверсітэце, штолета праводзіў вялікія раскопкі. Анкалагічная хвароба, якую ён, здавалася, перамог, нечакана вярнулася. Прапануем успаміны гісторыка, запісаныя яго студэнтамі.

### Розныя веры – адна нацыя

Нарадзіўся я ў вёсцы Круці. Вёска праваслаўная, і ўсе тут лічылі сябе беларусамі.

А пасля мы пераехалі на хутар Гінеўка. Хутар быў на ўсход ад Мядзела кіламетраў пяць. Там было многа хутароў розных.

Мы былі праваслаўныя. На поўнач – каталікі, а справа былі чатыры хутары татарскія, Александровічы. Мы ўсе былі падобныя, нават татарчукі.

Размаўлялі мы на аднолькавай мове, хадзілі калядаваць, напрыклад, на ўсе святы: на праваслаўныя хадзілі, на каталіцкія. На Вялікадні яйкі збіралі і ў каталікоў, і ў праваслаўных. У мусульман, калі таксама свята, мы малыя хадзілі да іх у госці, яны частавалі нас. Была абсалютна талерантная сітуацыя.

Калі свята каталіцкае было, мой бацька не араў каля мяжы, дзе каталікі.

Так берагалі адзін аднаго.

Бацькі ніколі не лаяліся, не мацюкаліся, ніколі. Толькі аднойчы, калі ўжо быў калгас і савецкія парадкі, бацька неяк мацюкнуўся…

Абсалютна мат быў выключаны.

Ну гэта ж Заходняя Беларусь – калі хто мацюкаецца, значыць, ён васточнік ці камуніст.

Малым я ўжо ведаў, што я беларус. Памятаю, у хаце гэта было. Бацька сядзіць, і я сяджу.

Бацька пальцам піхае ў грудзі. Палец такі вялікі, з пазногцем. Піхае й кажа: “Ты беларус. Паўтары. Беларус”. Кажу “белалус” – “р” яшчэ не вымаўляю.

### Лапіцкі

Пасля я дазнаўся пра Лапіцкага. Пайшоў у мядзельскую школу. Звычайная школа, беларуская. І прыносіць на ўрок батанікі малюнкі на шараватай паперы рознакаляровымі алоўкамі, прыгожа так зробленыя. Інфузорыі туфелькі. Мне ў перапынку старэйшыя мядзельскія хлопцы кажуць:

“Маляваў Слаўка Лапіцкі. З нашай школы. Яго расстралялі за Беларусь”. Мяне раптам гэта працяло. Значыць, за Беларусь можна так быць, што могуць нават расстраляць!

У 1950-м летам яго расстралялі. А я скончыў пачатковую школу, чатырохгадовую. Бачыў тыя ўлёткі – яны яшчэ былі свежыя, яшчэ цёплыя ад яго рук. Расклейвалі іх мядзельскія школьнікі – іх з аўтаматамі забіралі з урокаў…

Гісторыя настолькі ўразіла, што сам пісаў улёткі: “Прэч расійскіх акупантаў”. Ішоў у школу і па дарозе раскідваў. Шчасце, што была зіма, белыя лісткі ніхто не знайшоў…

Я быў у дзявятым класе, калі брат вярнуўся з войска. Сядзім у святліцы. І брат да мяне звяртаецца: “А чего ты по-белорусски говоришь? Надо по-русски”. Я як на яго вызверыўся – я беларус! І ты беларус!

Брат, які на восем гадоў старэйшы, разгубіўся… І я бачу, яму даходзіць нешта… Пасля мы былі з ім аднадумцамі.

**Будзем араць – і разаром**

### Дваццаць зменаў улады

Мы былі прасавецкія, хаця бацька ніколі б не ўступіў у партыю.

А яму прапаноўвалі шмат разоў. Не ўступіў з сялянскага вопыту, бо казаў: “Я пражыў за сваё жыццё нешта каля дваццаці зменаў улады”. І загінаў палец – Мікалай ІІ, потым быў Керанскі, пасля Керанскага прыйшоў Кайзер, потым Ленін, потым прыйшоў на нейкі час Пілсудскі, потым зноў Ленін, потым літоўцы, як Ленін аддаў Нарачанскі край Літве, потым зноў Пілсудскі прыйшоў, пасля прыйшлі тыя саветы, пасля прыйшлі немцы, пасля – гэтыя саветы ў 1944-м.

Кажа, калі я пражыў дваццаць зменаў улады, хто дае гарантыі, што і 21-й не будзе змены?

Нашто мне лезці ў гэтыя камуністы – вось такая ў яго была філасофія.

У 1950-я людзі чакалі вайны, чакалі амерыканцаў.

Бывала, суседка бяжыць да нашай мяжы: “Марыля! Амерыканскія танкі ўжо ў Паставах!” Ці ў Мядзеле гром загрыміць — яна бяжыць.



Архіў “РГ”.

Міхась Чарняўскі, гісторык, археолаг, адзін з барацьбітоў за незалежнасць.

### За гарызонт

Мне з дзяцінства хацелася падарожнічаць. Хутар, адзінота – я быў начытаны кніжкамі.

Першыя мне бацька купляў. Яшчэ захавалася кніжка №3. Самая першая – брашурка – нейкая бярозка была намалявана і вершык нейкі на кардоне. Другая – не памятаю. Трэцяя – можа, Самуйлёнка апавяданні – “У завіруху”.

Быў дэтэктарны прыёмнік, па якім ціхенька слухалі “Голас Амерыкі”. Мама любіла… Там быў авальчык такі з надпісам “Дэтэктар № …”. Я яго намазваў і прыціскаў кніжку. Атрымлівалася пячатка “Дэтэктар № …”. Гэта быў мой ex libris дзіцячы.

Я выходзіў з дому ў школу, адкрываў кніжку. Пяць кіламетраў ішоў і чытаў…

Або пасвіш кароў, а там балоты – велізарныя балоты, – возера блакітнае, кругленькае як вока, сінія ўзгоркі, лясы, лясы, лясы. Было страшэннае жаданне пайсці за лясы, за гарызонт. Я не люблю доўга на адным месцы і раскопкі праводзіць. Люблю рукзак на плечы – і за гарызонт, у разведку.

Любіў падарожнічаць па картах – па Амазонцы, Паўднёвай Амерыцы…

**Запісалі Паўліна КУПРЫСЬ, Рыгор ШКУРЫНАЎ, “Наша Ніва”. У скарачэнні. Працяг будзе.**



■ МАЙСТАР-КЛАС

# Кветкі з паперы да жаночага свята

**МЯДЗЕЛ. У дзіцячай раённай бібліятэцы-экалагічным цэнтры з 1 па 7 сакавіка праводзяцца майстар-класы па стварэнні кветак з гафрыраванай паперы.**

Арганізаваныя яны для таго, каб дзеці маглі зрабіць падарунак мамам да 8 Сакавіка.

А паглядзець на ўзоры папяровых кветак можна на выставе ў бібліятэцы. Большую частку прадстаўленых на ёй кветак зрабіла бібліятэкарка **Сняжана Мамай**.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Адзін з экспанатаў на выставе.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



 

любую спецыяльнасць хімічнага профілю. Ішлі каля хімфака БДУ, кажу сыну: “А можа, сюды…”. Так хацелася зацягнуць у родныя пенаты. Але ён сказаў “Не. У мяне ёсць мэта”. Малодшы сын, Артур, – дзевяцікласнік. Ён яшчэ вагаецца, якую прафесію выбраць, але найбольш любіць з машынамі працаваць.

**– Як ім з мамай-настаўніцай?**

– Усе члены сям’і павінна набрацца цярпення, каб жыць разам з настаўніцай. Ім увагі ўдзяляецца вельмі мала. А вось гэтым задачам, якія трэба падрыхтаваць на заняткі з алімпіяднікам, шмат. Сям’я да гэтага ставіцца з цярпеннем і разуменнем.

**– Ці дапамагае вам хімія ў паўсядзённым жыцці?**

– Сказала б, можа, нават ускладняе жыццё. Калі хаджу па рынку ці магазіне, разглядаю, чытаю спіс складнікаў, што шкодна, а што не, што можна есці, а што не варта. Больш часу выдаткоўваю на пакупкі. Можа, і іншых затрымліваю гэтым.

**– А ў экстрэмальных сітуацыях ці могуць веды выратаваць жыццё? Што б вам спатрэбілася б з падручных рэчаў, напрыклад, калі б вы былі ў замкнёным памяшканні і заканчваўся кісларод.**

– Самае бяспечнае – выкарыстаць пераксід вадароду, ёсць у кожнай аптэчцы. Закінула б у раствор у якасці каталізатара кавалачак бульбіны. І пры раскладанні пераксіду атрымаўся б кісларод.

**– Ці маглі б вы параіць чытачам, на што варта звяртаць увагу, калі набываеш прадукты, касметыку ці бытавую хімію.**

– З асабістага досведу. Ніколі не карыстаюся сродкамі для мыцця посуду, бо тыя ўтрымліваюць паверхнева актыўныя рэчывы. А яны, лічу, не вельмі добра ўплываюць на арганізм чалавека, асабліва калі блага змыць з талеркі. Таму карыстаюся гарчычным парашком альбо содай. І посуд чысты.

Ніхто з членаў маёй сям’і не ходзіць у абутку са штучнай скуры – таму што, лічу, полівінілхларыд “не дыхае” так, як натуральная скура. Не куплю малако з доўгім тэрмінам захоўвання. Мне больш падабаецца малако, якое кісне за тры-пяць дзён.

**– Якія простыя эксперыменты параілі б праводзіць бацькам разам з дзецьмі?**

– Выцісніце сок з чарніц альбо вішні (гэта прыродныя індыкатары) і дабаўце яго да раствору пітной соды і сталовага воцату. Звярніце ўвагу на тое, які колер будзе мець сок у розным асяроддзі. Іншы эксперымент: у насычаны саляны раствор апусціць галінку елачкі. І на ёй з’явяцца крышталікі – як быццам іней.

У нас дома ёсць аміячная салетра (яна выкарыстоўваецца як угнаенне). Можна намачыць сурвэтку, пакласці на сподачак. На яго паставіць шклянку з вадой і ў гэту шклянку насыпаць аміячную салетру. Пры растварэнні салетры ідзе працэс растварэння з паглынаннем цяпла. Тэмпература апускаецца, у шклянцы вада становіцца зусім халоднай. А сурвэтка прымярзае да шклянкі.

Ці пакіньце на некалькі дзён курыныя костачкі ў шклянках з пітной вадой і з кока-колай. Затым дазвольце вашаму дзіцяці іх разламаць. У склад кока-колы ўваходзіць фосфарная кіслата, якая і наносіць шкоду касцям. Так што, зрабіце разам высновы.

**– А дома якую ваду п’яце: з-пад крана, фільтраваную, бутыляваную?**

– Бутыляваную.

**На ваш погляд, як можна прыемна здзівіць любую жанчыну?**

Сюрпрызам.

**– Які самы незвычайны падарунак вы атрымлівалі?**

– Зорак з неба мне не дарылі, але кожнае свята мяне муж здзіўляе. Не, падарункі самыя звычайныя, толькі прадмовы да іх розныя, такія пяшчотныя і ласкавыя, што нешта самае простае становіцца мілым і дарагім. Напярэдадні 8 Сакавіка ўпэўненая, што таксама атрымаю нешта незвычайнае звычайнае.

А найбольш запомніўся такі падарунак. Гады тры таму ў мядзельскім універмагу нагледзела прыгожыя завушніцы. Вельмі захацела іх купіць, але падаліся дарагімі. Некалькі разоў прыходзіла, прыглядалася да іх, але ўсё адкладала пакупку. На 8 Сакавіка муж быў у рэйсе, патэлефанаваў і назваў месца ў доме, дзе схаваны сюрпрыз. А там якраз тыя завушніцы, пра якія марыла! Аказалася, што муж у пошуках падарунку завітаў ва ўнівермаг. Тут прадавец яму і падказала, што жонцы вельмі гэтыя завушніцы спадабаліся – у Мядзеле ж людзі адзін аднаго ведаюць.

**– Якія хімічныя з’явы здзіўляюць і зачароўваюць вас?**

– Хутчэй за ўсё, не хімічныя, а прыродныя. Таму што самы вялікі хімік – гэта прырода. Здзіўляюць сталагміты ў пячорах, прыродныя самацветы. А паспрабуйце разглядзець сняжынку. Ці ж гэта не дзіва? А захад сонца над маім любімым возерам Мястра – ці ж можна гэтым не зачароўвацца?!

**– Ці можа хімія дапамагчы стварыць цуд у сваім доме?**

– Хімія дапамагае нам, без яе немагчыма жыць: гэта энергія, ежа, адзенне, тэхніка, лекі. А цуды ў нашым жыцці адбываюцца толькі дзякуючы Богу.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота забяспечана Наталляй КЛІМОВІЧ.

Вечар сустрэчы з выпускнікамі.


Фота забяспечана Наталляй КЛІМОВІЧ.

На экскурсіі з сынамі Арцёмам і Артурам.


Фота забяспечана Наталляй КЛІМОВІЧ.

На маёй роднай вуліцы.


Фота забяспечана Наталляй КЛІМОВІЧ.

На набярэжнай возера Мястра.


Фота забяспечана Наталляй КЛІМОВІЧ.

Падчас урока.


Фота забяспечана Наталляй КЛІМОВІЧ.

Падчас адпачынку на Азоўскім моры.


Фота забяспечана Наталляй КЛІМОВІЧ.

“Стомлена крочу з працы дадому”.

ПАДТРЫМКА СПАРТСМЕНАЎ

# Як жывецца з сынам-футбалістам ці татам-хакеістам




Фота з асабістага архіва Віялеты СЯНЬКО.

Віялета, дачка хакеіста Уладзіміра Сянько, заўсёды гатовая падтрымаць тату на трыбунах.



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

Сапраўдныя фанаты носяць шалікі з надпісам "ФК Маладзечна". Футбольнымі аматарамі бываюць не толькі мужчыны, але і жанчыны. А самы лепшы фанат – гэта мама! На фота – Жанна Бугай, маці футбаліста Юрыя Бугая.

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі ў сям'і ёсць прафесійныя спартсмены ці аматары спорту, яе лад жыцця залежыць ад раскладу матчаў і трэніровак.**

## Віялета Сянько: "Лепей пайду на хакейны матч, чым у кавярню"

А што, калі спартсмен – тата, які пасля працы спяшаецца на спартыўную пляцоўку?

Пра сваё стаўленне да спорту нам расказала дачка **Уладзіміра Сянько**, нападаючага маладзечанскай хакейнай каманды "Лядовыя пінгвіны" **Віялета Сянько.** Цяпер яна вучыцца ў 11-м класе маладзечанскай гімназіі №10. У будучым дзяўчына плануе звязаць сваё жыццё з эканомікай.

**– Як любоў вашага таты да хакея ўплывае на паўсядзённае жыццё сям'і?**

– Не магу сказаць, што яна нешта кардынальна мяняе. Тата кожны дзень дома, проста два-тры разы на тыдзень пасля працы ходзіць на трэніроўкі. Бываюць выязныя матчы, але тады яго няма толькі ўвечары. Гэта нават добра, калі тата спартсмен: ён не ляжыць на канапе перад тэлевізарам, а актыўна праводзіць вольны час.

**– Ці даўно ён займаецца хакеем?**

– Так, я нават не памятаю, калі гэта ўсё пачалося. Раней ездзіў у Мінск, пасля з'явіліся "Лядовыя пінгвіны" ў Маладзечне. Цяпер тата трэніруецца тут разам з сябрамі па камандзе. Пару гадоў таму я неяк спакойна ставілася да яго захаплення. Цяпер бачу, што ўсё нашмат больш сур'ёзна.

**– Вы самі любіце хакей?**

– Так, у мяне нават ёсць любімая хакейная каманда. Вядома, гэта "Лядовыя пінгвіны"! На дамашнія матчы мы абавязкова ходзім усёй сям'ёй: я, мама, цётка, часам далучаюцца маміны сяброўкі... Ніякіх адмысловых крычалак у нас няма: мы проста апладзіруем, а калі тата забівае – усе разам крычым "малайчына!" На выязных матчах я пакуль не была – яны заканчваюцца позна, плюс шмат часу ў дарозе губляецца.

**– Значыць, вы зможаце патлумачыць тым, хто далёкі ад хакея, што такое буліт і овертайм?**

– Ведаю толькі, што гэта хакейная тэрміналогія. А што дакладна значыць... Не, на адкажу.

**– Калі выбіраць паміж паходам на матч і ў кавярню, то што выбераце?**

– Вядома, матч, калі там будзе гуляць тата! Я ведаю, як важна для яго бачыць, што мы падтрымліваем яго і каманду на трыбунах.

**– Ці лёгка ў вашай сям'і адбываецца выбар, што глядзець увечары: кіно ці хакейны матч?**

– Па-рознаму бывае. Часам тата садзіцца за вялікі тэлевізар і глядзіць матч, а мама застаецца ў іншым пакоі ля маленькага тэлевізара. А бывае, што тата ідзе на кампраміс, і кіно глядзім разам.

**– Ці прыцягвае вас тата да заняткаў спортам?**

– Хакеісткай я ніколі не была! Але яшчэ ў маленстве ён паставіў мяне на канькі. І сёння я змагу добра праехаць. Займалася гімнастыкай і танцамі, але не прафесійна. Затое наш пляменнік усю зіму праводзіць на лёдзе: тата дапамагае заліваць лёд перад домам, і яны разам займаюцца.

**– Часам падаецца, калі ў сям'і ёсць мужчына-спартсмен, то ніколі няма праблемы з выбарам падарункаў на святы: новая шайба ці мяч ніколі не будуць лішнімі. Ці так гэта?**

– Што вы, ён такія рэчы выбірае толькі сам! Перад гэтым доўга шукае самыя лепшыя і якасныя. Я б сама не наважылася нешта такое набываць: у гэтым таце вельмі цяжка дагадзіць. Лепш ужо пену для галення!

**Даведка "РГ".** Буліт – штрафны кідок па варотах у хакеі.
Овертайм - дадатковы час гульні ў хакеі.

## Жанна Бугай: "На паўтара года звольнілася з працы, каб ездзіць з сынам на футбол"

Юра Бугай – адзін з футбалістаў, які ўваходзіць у склад футбольнага клуба "Маладзечна". Для яго мама – гэта падтрымка і разуменне, яна дапамагае яму ў складаных момантах жыцця.

**– Як Юра трапіў у футбол?**

– Калі ён быў у нулявым класе, трэнер **Віктар Дзмітрачкоў** набіраў новую каманду. Ён запрасіў займацца футболам майго сына. Яго ніхто не прымушаў займацца гэтым відам спорту.

**– Ці перашкаджаў футбол школе?**

– Скажу, што школе гэта ніяк не перашкаджала. Наадварот, быў стымул лепш вучыцца.

**– Ці наведваеце футбольныя матчы сына?**

– Вядома, наведваю! Пры любой магчымасці імкнуся прыйсці на матч. А калі Юру запрасілі ў БАТЭ, трэнерам тады быў **Барыс Лазарчык**, то я на паўтара года звольнілася з працы, каб ездзіць з сынам на матчы.

Яму было ўсяго 13 гадоў. Я баялася Юру аднаго адпускаць. Цягнікі былі і сярод ночы, і а 4 гадзіне раніцы.

**– А з фанатамі кантактуеце?**

– Візуальна я амаль усіх хлопцаў ведаю, а асабіста з імі незнаёмая.

**– Ці не ўзнікае спрэчак, што глядзець ўвечары: матч ці серыял?**

– Ой, якія серыялы! На гэта ў мяне амаль часу няма. Я ніколі не перашкаджала глядзець футбол.

**– Якія падарункі вы дорыце Юру?**

– І падарункі ў нас звязаныя з футболам. То форму трэба было купіць, то мячык, то спартыўны абутак. А яшчэ гетры куплялі, і чым больш.

А ён у сваю чаргу мне прывозіў молатую каву, калі ўдзельнічаў у матчах за мяжой.

**– А ці былі ў яго пераломныя моманты наконт футбола?**

– Кідаць займацца футболам Юра ніколі не хацеў і не збіраўся. Зразумела, што калі прайграваў матчы, то псіхаваў. А сур'ёзных праблем не ўзнікала.

**– А як вы яго падтрымлівалі, калі нешта не атрымлівалася?**

– Першая маральная падтрымка – гэта тата. Ён з ім гутарыць. Усе нюансы, нават маленькія, вырашаюць разам.

**Вольга ЮРКЕВІЧ,**
**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

ЖАНОЧЫ ФУТБОЛ

# У чэмпіянаце стала на адну каманду менш

**МАЛАДЗЕЧНА. Стала вядомай формула правядзення чарговага чэмпіянату краіны. Сёлета ён збярэ не дзесяць камандаў, як гэта было ў два апошнія сезоны, а толькі дзевяць.**

Сярод удзельнікаў няма "Вікторыі", якая прадстаўляла невялікі горад Воранава. Другі ўдзельнік Гродзеншчыны, "Ніва-Белкард" з абласнога цэнтра, прадоўжыць выступленні. Тым самым застаецца забяспечанай палітыка Беларускай федэрацыі футбола, накіраваная на тое, каб кожная вобласць мела свае калектывы ў жаночым чэмпіянаце.

З Міншчыны заўсёды быў толькі адзін удзельнік, наша "Маладзечна". Падстрахаваць яго няма каму. Наўрад ці падапечныя трэнера **Сяргея Карыцкі** зробяць нейкі рывок у параўнанні з усімі ранейшымі сезонамі.

Большасць нашых футбалістак школьнага ўзросту. У гульнях з тымі камандамі, дзе выступаюць дарослыя жанчыны, давядзецца цярпець паражэнні.

Пачынаецца чэмпіянат 13 красавіка. На працягу вясны і лета дзевяць камандаў згуляюць у два кругі, такім чынам, правядуць па 16 матчаў. Гэта не ўсё. З улікам набраных ачкоў яны будуць разбітыя на верхнюю "шасцёрку" і ніжнюю "тройку". На працягу восені згуляюць тут яшчэ ў два кругі. У суме набярэцца няшмат матчаў.

Мацнейшыя за ўвесь чэмпіянат выйдуць на поле па 26 разоў, слабейшыя – па 20. Як і летась, будуць праведзеныя два моладзевыя першынствы. Выступяць дзяўчаты 1995-1997 і 1998-2000 гадоў нараджэння.

Вельмі цікава, якога выніку зможа дасягнуць наша каманда старэйшых дзяўчат, калі ў яе складзе выйдуць усе мацнейшыя футбалісткі свайго ўзросту. І што б такога здарылася, калі б "Маладзечна" не прымушалі абараняць "гонар вобласці", а далі магчымасць пагуляць выключна тут, сярод равесніц?

Плюс не трэба забывацца пра эканамічны фактар. Грошы расходуюцца на экіпіроўку, транспарт, харчаванне. Лепш забяспечваць усім неабходным толькі два моладзевыя калектывы, чым яшчэ ўтрымліваць і напалову дарослую каманду.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

# Камент-эксперт




**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Як гэта – спаць на працоўным месцы?

Аўтапарк №4 – манапаліст у пасажыраперавозках у нашым горадзе. У іх проста няма канкурэнцыі! Адсюль і адсутнасць барацьбы іх кіраўніцтва і работнікаў за патэнцыйнага пасажыра. Прыклад: прыйдзеце вы ў краму, не спадабаецца абслугоўванне, "плюнеце" і будзеце хадзіць у іншую. А з аўтапаркам па-іншаму: наслухаецеся ў аўтобусе "аплачаны праезд – гарантыя якасці паслуг", купіце праязны і будзеце гадзінамі іх аўтобус чакаць! Які, дарэчы, у раскладзе ёсць, а сапраўды яго не існуе. А што кандуктар? Стамілася жанчына з такім графікам, усе мы людзі. Змены патрэбныя ў самой структуры аўтапарка. З'явілася б цяпер у горадзе яшчэ адна фірма па перавозках пасажыраў, у такой жа коштавай катэгорыі, і пайшоў бы аўтапарк "па свеце" з іх падыходам да працы. ***Месі.***

### Вілейскае таксі ўрэзалася ў слуп на маладзечанскім пуцеправодзе

Наўмеюць вілейцы па вашых пуцеправодах гойсаць. Набудавалі абы чаго! ***Хведзя на лісапедзе.***

Аказваецца, у Вілейцы было таксі! :)А цяпер яго няма:( ***Ого!***

### Касцёл у Касцяневічах адзначыць 250 год

А менавіта ў гэтым касцёле 22 чэрвеня 1941 года вянчаліся мае дзядуля і бабуля. ***Наталля Сянько.***

### У Маладзечанскім політэхнічным каледжы абакралі выкладчыцу

Гэта проста дзікунства, калі злодзей сярод навучэнцаў гэтай групы. Як пасля гэтага глядзець у вочы сваім сябрам, а тым больш сваёй выкладчыцы. Але, з другога боку, які там у яго сорам, калі адважыўся на такое. Калі не знойдуць злодзея, то недавер у калектыве групы гарантаваны. ***Зямляк.***

### Двойчы згвалцілі, абакраў, збіў і думаў, што пахаваў ахвяру пад снегам у Алёхнавічах

Дамы зусім побач. Дзяўчатам трэба берагчы сябе, нават на сваёй вуліцы быць пільнымі. Хлопец ніколі сабе не даруе, што не давёў да ганка. ***Юры.***

### Як вы ацэньваеце працу Фёдара Дамаценкі і чаго чакаеце ад новага старшыні Аляксандра Яхнаўца?

Новы прыйдзе ва ўжо парадкаваны, прыгожы горад. Таму – толькі працаваць і развіваць. Цікава, што новага ён пабудуе. ***Сяргей.***

Лядовыя палацы закончыліся. Трэба ўжо брацца за ходнікі ў дварах. P.S. Дамаценка быў на сваім месцы. ***Хведзя.***

Фёдар Дамаценка шмат зрабіў для горада. І гэта відавочна. Хацелася б, каб новы мэр заняўся дарогамі, бо з імі ўсё яшчэ шмат праблем. ***Анастасія.***

**ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ**

### Чаго вы чакаеце ад новага старшыні Маладзечанскага райвыканкама?

| | |
|---|---|
| 36% | Добрых дарог |
| 21% | Развіцця беларускай культуры |
| 18% | Парадку |
| 10% | Добраўпарадкавання горада |
| 07% | Мне падабаўся папярэдні старшыня |
| 05% | Добраўпарадкавання раёна |

Усяго галасоў 76

**Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"**

**РЭПЕРТУАР НА САКАВІК**

**10 нядзеля 12.00** Н.Гернет. **"МАЛЕНЬКАЯ ГІСТОРЫЯ"** (музычная казка)

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*

Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

**Мінскі абласны драматычны тэатр**

**РЭПЕРТУАР НА САКАВІК**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**14 чацвер 12.30 "Всё будет хороШОУ!"** (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне) ідзе на рускай мове *Алег Чэчанеў*

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**13 серада 19.00** ПРЭМ'ЕРА. **"Сямейны партрэт з пабочнай асобай"** (камедыя ў 2-х дзеях) Сцяпан Лабазёраў

**15 пятніца 19.00 "Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча) *Уладзімір Рудаў*

Тэатра мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*, тэл. для давedak: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: modt@tyt.by.

**СВЯТА**

## У дзіцячым цэнтры перацягвалі канат і спальвалі пудзіла!



Фота забяспечана Галінай СІЛЬВАНОВІЧ.

**Шмат ахвотных было, каб паўдзельнічаць у перацягванні каната.**

**МАЛАДЗЕЧНА. У цэнтры карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі ў мінулую сераду правялі традыцыйныя масленічныя гулянні.**

Дзяцей і бацькоў сустракалі Скамарохі. Адзін Скамарох адстойваў зіму, а другі – вясну.

– Нашы работнікі пераапрануліся ў цыганоў і пусціліся ў скокі, – кажа арганізатар мерапрыемства выхавальніца **Галіна Сільвановіч.**

У конкурсах удзельнічалі ўсе: таты, мамы, дзеці.

Для тат быў конкурс на ўздыманне гіры, мамы спаборнічалі на меткасць, а дзеці збіралі на хуткасць рознакаляровыя снежкі. Конкурс заключаўся ў тым, хто прынясе больш снежкаў зіме і вясне.

Паміж сем'ямі прайшлі гонкі на мятле, а спаборніцтвы на перацягванне каната аб'ядналалі ўсіх прысутных.

Падчас свята праходзіў кірмаш, дзе можна было пачаставацца гарачай гарбатай, блінамі і рознай выпечкай. Бліны пяклі работнікі цэнтра, а салодкую выпечку прынеслі бацькі.

Па традыцыі свята скончылася спальваннем пудзіла зімы.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

**ЗАМЕЖНАЕ СЯБРОЎСТВА**

## Дранікі абмянялі на блінчыкі "Жэмайчу"

**МАЛАДЗЕЧНА. Літоўскія вучні сустрэлі на літоўскай зямлі настаўнікаў і вучняў з маладзечанскай гімназіі №3.**

Гімназісты 6-8 класаў і настаўнікі 1 і 2 сакавіка гасцявалі ў Вільні.

Два гады таму прагімназія імя Пятраса Вілейшыса і гімназія №3 горада Маладзечна заключылі дагавор аб супрацоўніцтве.

Як расказала намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце **Любоў Кірмель**, яны разам з літоўцамі арганізавалі праект "Беларуская нацыянальная кухня".

– Мы загадзя абмяняліся рэцэптамі. Яны нам прыслалі рэцэпт блінчыкаў "Жэмайчу", а мы ім – дранікаў,– працягвае Любоў Кірмель.

Па прыездзе ў Літву дзецям і настаўнікам правялі экскурсіі па Старой Вільні.

Потым беларусы пабывалі ў Літоўскім нацыянальным музеі.

А калі прыехалі ў прагімназію да літоўскіх сяброў, дзеці падзяліліся на дзве палавіны. Адны гатавалі нацыянальныя стравы, а другія ўдзельнічалі ў віктарыне.

Потым дружна селі за стол і каштавалі нацыянальныя стравы абедзвюх краін.

У маі нашы дзеці сустрэнуць літоўскіх сяброў на беларускай зямлі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

**ПРОСТА АНЕКДОТ**

Раніца. Сняданак. За сталом мужчына і жанчына.

Ён: зрабі мне бутэрброд з маслам і ікрой.

Яна акуратна намазвае ўсё на хлеб. Ён з'ядае.

Ён (праз пару хвілін): зрабі яшчэ?

Яна: Не буду. Гэта была дэманстрацыйная версія клапатлівай жанчыны. Ліцэнзійную версію ты зможаш набыць толькі пасля рэгістрацыі шлюбу.

***

Бландзінку будуць апытваць на дэтэктары хлусні. Падключылі яе і тлумачаць:

– Кажаш праўду – загараецца зялёная лямпачка, няпраўду – чырвоная. Зразумела?

– Зразумела.

* загараецца чырвоная лямпачка *

**СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 7 | | 2 | 9 | | |
| | 5 | | 6 | | 4 | | | |
| | 4 | | 5 | | | | | 1 |
| | | | | | 6 | 5 | | |
| 5 | | 3 | | | | 2 | | 7 |
| | | 7 | 2 | | | | | |
| 2 | | | | | 9 | | 4 | |
| | | | 4 | | 7 | | 9 | |
| | | 9 | 3 | | 1 | 6 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

**ГАРАСКОП (8-14 САКАВІКА)**



**Авен.** Калі вамі завалодае лянота, то знікне энтузіязм і фізічная энергія пойдзе на спад. Ключ да поспеху – у пераадоленні перашкод і раздражнення.



**Цялец.** Вы занадта рашучыя, патрабавальныя і катэгарычныя, а гэта для вас перашкода на шляху дасягнення поспеху.



**Блізняты.** На першы план выступяць уласныя фінансы, сяброўства і каштоўнасці. Вам захочацца разбагацець. А калі такая думка закрадваецца – гэта ўжо крок да мэты.



**Рак.** Няглядзячы на праблемы, гэты перыяд характарызуецца стымулюючай энергіяй. Нават калі ў пачатку гэта энергія была народжаная гневам і расчараваннем, пры рашучых намаганнях яна будзе накіраваная на ажыццяўленне пазітыўных дасягненняў.



**Леў.** У вас будуць развівацца ўнутраная сіла і ўлада дзякуючы росту вашай духоўнай энергіі, інтуіцыі і пераадоленню скрытай боязі і трывог.



**Дзева.** Будзьце настойлівыя, дзейнічайце, пакуль справы не пойдуць так, як трэба. Толькі ў нястомнай працы дасягаецца поспех.



**Шалі.** Гэты перыяд можа апавясціць вас аб заканчэнні рамана, партнёрства, узаемаадносін з жанчынамі ці сумеснага прадпрыемства, але разам з тым садзейнічаць стварэнню новых адносін у пералічаных сферах.



**Скарпіён.** Гэты перыяд – час бясстраснай ацэнкі вашых уласных заслуг, час ганарыцца сабой і, пры неабходнасці, развіваць і паляпшаць свой імідж і самаацэнку.



**Стралец.** Настаў час увасобіць свае ідэі ў рэальнасць і развіць ці прымяніць свае тэхнічныя навыкі. Вашы дзеянні будуць мець спрыяльныя вынікі.

**Казярог.** Пазбягайце агрэсіўнасці і неабдуманых учынкаў, асабліва звязаных са спортам і любой канкурэнцыяй.



**Вадалей.** Давярцеся ўласнай інтуіцыі, яна падкажа, вырашэннем якіх праблем можна і трэба заняцца менавіта цяпер.

**Рыбы.** Можа ўзнікнуць унутраны канфлікт паміж тым, што вы робіце, і тым, што б хацелі рабіць. Не дазваляйце пачуццям стаць на шляху да мэты.



**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

**Камент-эксперт**

rh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобныя артыкулы, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

**9 сакавіка, субота**

| | Чацвер | | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -1 / +6 | | 0 / +1 | | -5 / +1 | | -7 / -1 | |
| | 729 | ↖ 4 | 736 | ↙ 8 | 741 | ← 7 | 736 | ← 5 |
| Вільня | -2 / +7 | | -1 / 0 | | -5 / +1 | | -5 / -1 | |
| | 744 | ↖ 4 | 746 | ← 7 | 734 | ← 9 | 753 | ↙ 10 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.40
Захад 19.05
Даўжыня дня 11.25

Усход 6.13
Захад 16.30
Квадра 4



## ПРЫКМЕТЫ

- Гракі селі ў гнёзды – праз тры тыдні трэба пачынаць сяўбу.
- 14 сакавіка – "Аўдакея". Якая "Аўдакея, такое і лета: цёплы вецер – мокрае лета, вецер з поўначы – да лета халоднага. Дзень ясны – ураджай на агуркі. У гэты дзень сеюць капусту на расаду.

# Чытайце праз тыдзень:

- **Упушчаны ў ваду фен, сушэнне валасоў у духоўцы, воцат у бутэльцы з-пад мінералкі... Топ самых бязглуздых бытавых траўмаў**

## ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

# Цюльпаны з памідораў

**Упрыгожце святочны стол прыгожай закускай, якая адразу падорыць вясновы настрой!**

Памідоры разрэжце зверху крыж-накрыж і выцягніце сярэдзіну. Сыр натрыце на тарцы, вараныя яйкі дробна пасячыце, а часнок прапусціце праз прэс.

Яйкі, сыр і часнок змяшайце, дадайце маянэз, пасаліце. Запоўніць гэтай начынкай памідоры. З зялёнай цыбулі зрабіце сцяблінкі, а з агурка выражце лісточкі.

Выкладзіце на талерку цюльпаны з памідораў, упрыгожце кукурузай.

**Тэкля БОРШЧ.**

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ СМАРГОНІ

Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

**Цеплыня цеплатрасы знізу, сонейка – зверху, і цеплыня эмоцый – паміж новымі сябрамі.**

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Які рамантычны ўчынак найбольш вас уразіў?

**Анастасія Наумец, канцэртмайстар і выкладчык музкаледжа:**

– Я прачытала ў адной кнізе пра такі ўчынак. На шыі аднаго мужчыны маленькая дзяўчынка ўбачыла намаляваныя ноты і праспявала мелодыю. А гэта быў урывак з оперы Чайкоўскага, дзе гучыць "Я кахаю вас". Гэта мяне ўразіла. А ў жыцці часцей уражваюць шчырымі словамі.

**Юрый Руновіч, дырэктар крамы:**

– Запрасіў дзяўчыну на спатканне на матацыкле – сімпатычным чоперы. Каталіся па горадзе, за горадам, павучыў ездзіць трошкі. Пасля гэтага – вячэра пры свечках. Яна была здзіўленая.

**Гелена Бялячыц, прадавец:**

– Адна пара пасварылася, хаця пры гэтым моцна кахалі адно аднаго, але ніхто не рабіў першы крок. Урэшце хлопец вырашыў дзейнічаць. Прыехаў і сказаў: заплюшчы вочы і паехалі са мной. Калі яна расплюшчыла іх, яны стаялі на беразе вельмі прыгожага возера. І ён зрабіў каханай прапанову рукі і сэрца.

**Георгій Даўбенка, пенсіянер:**

– Быў выпадак, мы з жонкай і шасцімесячным дзіцем у калясцы пешшу пайшлі да Даманава. З начоўкай. Чым не рамантычнае падарожжа? Калі, канешне, здароўе дазваляе, чаго жанчынам і жадаю!

**Дзяніс Бохан, прадавец:**

– Адзін мой знаёмы пазнаёміўся з дзяўчынай у Мінску. Яны пагаварылі хвілін дзесяць. Ён ведаў толькі імя і тое, што яна працуе настаўніцай у Вілейцы. Недзе праз месяц паехаў шукаць яе ў Вілейку. Сустрэўся з мясцовымі школьнікамі і пытаецца, ці ведаюць яны настаўніцу з такім імем. Так і знайшоў. Ажаніліся, ужо дзеці ёсць.

**Аксана Гунько, прадавец:**

– Калі кахаеш, то заўсёды прыемна дарыць падарунак, нават больш, чым атрымліваць. З узростам такія ўчынкі больш асэнсаваныя і цікавыя. Маёй сяброўцы будучы муж зрабіў прапанову на Нарачы. Наколькі я памятаю, яны былі ў лодцы. Я лічу, што галоўнае не прыгожыя ўчынкі, а глыбокія пачуцці.

**Аляксандр От, вартаўнік:**

– Жанчынам трэба дарыць кветкі, заўсёды аказваць знакі ўвагі. І не толькі 8 Сакавіка. Варта дапамагаць жанчыне. Як спатрэбіцца, то і ў прыбіранні дома, напрыклад.

**Падрыхтавалі Зоя ХРУЦКАЯ, Настасся РОЎДА, Ганна ФІЛІСТОВІЧ.**



Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6650 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 10 (932) 8.03.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 171. Падпісана ў друк у 17.00 5.03.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.